№236 (1799)
Пятніца, 12 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП "Народная воля"
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — 0..+2, снег, уначы — -5...-3, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +2...+4, дождж, уначы — -4...-2, без ападкаў; у Гродне ўдзень — 0...+2, снег, уначы — -4...-2, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — 0...+2, без ападкаў, уначы — -2...0, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — 0...+2, дождж, уначы — -1...+1, снег; у Магілёве ўдзень — 0...+2, снег, уначы — -2...0, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ**

*Браян БЕНЭТ у Гомелі:*

## «Захад чакае ад Беларусі выканання прынцыпаў АБСЕ»

Амбасадар Вялікабрытаніі Браян Бенэт наведаў Гомель. У аблвыканкаме ён меў сустрэчу з першым намеснікам старшыні Аляксандрам Бяляевым. Гутарка вялася пра пашырэнне адносін не толькі паміж краінамі, але і рэгіёнамі, у тым ліку і ў справе змяншэння наступстваў катастрофы на ЧАЭС.

Высокі госць прачытаў лекцыю студэнтам дзяржаўнага універсітэта імя Францішка Скарыны, выслухаў меркаванні шэрагу кіраўнікоў грамадскіх арганізацый пра стан "трэцяга сектара".

Браян Бенэт выказаў таксама сваё стаўленне да развіцця адносін Беларусі з краінамі Еўрасаюза. Пра пашырэнне адносін з Захадам нядаўна ў чарговы раз заяўляў кіраўнік беларускай дзяржавы.

Амбасадар Яе Вялікасці, у прыватнасці, заявіў: калі Беларусь сапраўды хоча стаць часткай Еўропы і паўнавартасным сябрам міжнароднага супольніцтва, то існуюць пэўныя прынцыпы, выкананне якіх Захад чакае ад Беларусі.

— Гэта тыя прынцыпы, — удакладніў амбасадар Бенэт, — якіх Беларусь пагадзілася прытрымлівацца, калі яна стала сябрам АБСЕ. І Вялікабрытанія, і іншыя краіны, а таксама ЗША, як сябры АБСЕ, з задавальненнем дапамогуць Беларусі выканаць узятыя на сябе абавязацельствы. Гэта, натуральна, нялёгкі працэс, таму што Беларусь не так даўно стала незалежнай краінай, і, па сутнасці, знаходзіцца ў пераходным перыядзе.

Мы, канечне, спадзяемся бачыць прагрэс у згаданай справе. Мы ўпэўнены, што прагрэс наступіць, і Беларусь стане паўнавартасным удзельнікам міжнароднай супольнасці. Яна здзейсніць тыя рэформы, якія мы ад яе чакаем. Напрыклад, лібералізацыю эканомікі ды іншае. Такім чынам, пытанне не ў тым, што мы, як Захад, зможам зрабіць дзеля таго, каб дапамагчы Беларусі. Пытанне ў тым, як хутка сама Беларусь здолее адпавядаць тым патрабаванням і стандартам, якія яна прыняла на сябе.

Паводле слоў амбасадара, Захад будзе вітаць любыя намеры і крокі, скіраваныя на паляпшэнне адносін.

Гэта не з'яўляецца нейкай гульнёй, як камусьці падаецца. Беларусь не павінна выбіраць паміж Захадам і Усходам. Беларусь павінна стаць паўнавартасным сябрам міжнароднай супольнасці.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

## Веласіпеды і тэлевізары адпраўляюць у свабоднае плаванне. Цэн

*Зараз у Беларусі пашыраны спіс тавараў, цэны на якія фарміруюцца свабодна.*

Усяго неабмежаваныя гандлёвыя надбаўкі прымяняюцца па 25 групах тавараў. Зараз да іх дадаліся такія тавары, як тэлепрадукцыя, веласіпеды, мэбля, тавары для спорту і турызму, тканi і музычныя інструменты.

На думку Міністэрства эканомікі, свабодная цана на гэтыя тавары не аказвае істотнага ўплыву на ўзровень інфляцыі ў краіне. Цэны на тавары першай неабходнасці па-ранейшаму рэгулююцца Міністэрствам эканомікі і застаюцца на цяперашнім узроўні.

**Павел НІЧЫПАРОВІЧ.**

## А «на чай» электроннымі грашыма можна будзе даць?

*У мэтах пашырэння рынку банкаўскіх паслуг управленне Нацыянальнага банка Беларусі зацвердзіла Правілы ажыццяўлення аперацый з электроннымі грашыма.*

Як сказана ў правілах, эмісію электронных грошай, намінаваных у беларускіх рублях альбо замежнай валюце, на тэрыторыі Беларусі ажыццяўляюць банкі. У эквіваленце не больш за 200 еўра па афіцыйным курсе Нацыянальнага банка ўстаноўлены абмежаванні па суме электронных грошай, што захоўваюцца на адным праграмна-тэхнічным прыстасаванні, а таксама па суме адной аперацыі з іх выкарыстаннем. Усе аперацыі з электроннымі грашыма праводзяцца з улікам валютнага заканадаўства Беларусі.

Правілы пачнуць дзейнічаць пасля праходжання прававой экспертызы. З пачаткам іх дзеяння губляе сілу пастанова праўлення Нацбанка "Аб мінімальных патрабаваннях да ажыццяўлення эмісіі і правядзенні аперацый з выкарыстаннем электронных грошай", прынятая ў 2002 годзе.

**Аляксей АРЭШКА.**

**СІТУАЦЫЯ**

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ:*

# «120 дзяўчат і хлопцаў — гэта не пагроза для дзяржавы, гэта яе будучая эліта»

У навучэнцаў ліквідаванага Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа скончыўся першы трыместр. Каля 120 дзяўчат і хлопцаў, нягледзячы на тое, што іх асабістыя справы расасланыя ў розныя школы па месцы жыхарства, па-ранейшаму лічаць сябе ліцэістамі і прыходзяць на заняткі да былых выкладчыкаў. Праўда, займаюцца ліцэісты самастойна і таму заняткі з выкладчыкамі называюцца кансультацыямі і праходзяць не ў будынку па вуліцы Кірава, 21, а ў розных месцах сталіцы. Усяго іх у Мінску адзінаццаць.

Па-ранейшаму працуе ліцэйскі тэатр, рэгулярна выходзіць ліцэйская газета "Трыкутнік". Зараз дзеці рыхтуюцца да навагодніх і калядных свят.

...Я прысутнічаю на ўроку літаратуры і сусветнай мастацкай культуры ў 9-м класе другога курса. Заняткі праходзяць на прыватнай кватэры. Яе арандуе грамадская арганізацыя, якая ў межах сваёй статутнай дзейнасці мае права аказваць асветніцкую дапамогу.



Два пакоі пераабсталяваны пад вучэбныя класы. Дошка, парты, настаўніцкі стол — усё, як у звычайнай школе. Толькі перад урокам не звініць званок, а ў перапынках у цесным калідоры дзевяцікласнікі не сустракаюцца з вучнямі іншых класаў.

Сёння ліцэісты праходзяць тэму "Адраджэнне", чытаюць на памяць урыўкі з "Боскай камедыі" Дантэ і санеты Петраркі. На партах ляжаць падручнікі, дзённікі, сшыткі.

Выкладчык **Лявон Баршчэўскі** тлумачыць мне:

— Мы вывучалі вопыт падпольных гімназій і ліцэяў, якія існавалі ў Польшчы ў часы гітлераўскай акупацыі. Там вяліся дзённікі, журналы, і потым, калі акупацыя скончылася, новы ўрад Польшчы прызнаў усе гэтыя дакументы. У нас таксама вядуцца рабочыя журналы, рабочыя дзённікі, сшыткі, правяраюцца пісьмовыя работы. Усё гэта не носіць абавязковага характару, гэта інфармацыя для бацькоў, каб яны ведалі, як ідуць справы ў дзяцей па тым ці іншым прадмеце.

Мы шукаем магчымасці легалізавацца. 1 ліпеня гэтага года ініцыятыўнай групай была пададзена заяўка на рэгістрацыю грамадскага аб'яднання пад назвай "Беларускі ліцэй". Потым гэта магла б стаць прыватная навучальная ўстанова. Але дакументы яшчэ не разглядаліся. Зразумела, што пры такім несправядлівым стаўленні ўлад наўрад ці яны ўвогуле калі-небудзь будуць разглядацца.

120 дзяўчат і хлопцаў — гэта не пагроза для дзяржавы, гэта яе будучы набытак, яе будучая эліта. Была пастаўлена палітычная задача рассеяць дзяцей, разагнаць выкладчыкаў. І, напэўна, задача была пастаўлена самым высокім кіраўніцтвам, бо ніжэйшыя чыноўнікі адчуваюць сябе беспакарана. Звоняць са школ па месцы жыхарства, куды разаслалі асабістыя справы дзяцей, і пагражаюць, што нашыя дзеці не здадуць экзамены.

**— Адказнасць за дзяцей, якія засталіся з вамі, — вялікі цяжар...**

— Нікога: ні дзяцей, ні выкладчыкаў, — мы не ўгаворвалі застацца. У жніўні бацькоўскай радай было прынята рашэнне, што дзеці будуць вучыцца самастойна па праграмах, якія зацверджаны Міністэрствам адукацыі Беларусі. І яны звярнуліся за дапамогай к выкладчыкам. Мы ў сваю чаргу вырашылі застацца з дзецьмі, мы дапамагаем ім засвойваць школьную праграму.

**— Дарэчы, колькі ліцэістаў не пагадзілася пайсці ў іншыя ліцэі і школы сталіцы?**

— На канец мінулага навучальнага года ў ліцэі вучылася 150 чалавек, зараз — 120. З тых, хто пачынаў 1 верасня, сышло 9 чалавек. У асноўным гэта дзеці не з Мінска, а з раёна.

**— А выкладчыкі засталіся?**

— Так. Аднаго выкладчыка мы замянілі самі, а двое працуюць на замене — дзве жанчыны знаходзяцца ў дэкрэтным адпачынку. Летам у інтэрв'ю прэзідэнцкай газеце былы міністр адукацыі Пётр Брыгадзін сказаў: "Педагогический коллектив работал хорошо". Які тады сэнс разганяць гэты калектыў?

Да нядаўняга часу ўсе выкладчыкі былі беспрацоўнымі, зараз яны залічаны ў штат ГА "Таварыства беларускай школы" і там атрымоўваюць мінімальную зарплату. Ніякай працы ў сістэме адукацыі ім ніхто не прапаноўваў.

**— Скончыцца навучальны год — што далей?**

— Дзеці, згодна з заканадаўствам, могуць працягваць сваё самастойнае навучанне яшчэ год.

Вучні 9-х і 11-х класаў будуць здаваць экзамены экстэрнам. Мы працуем у прававым полі палажэння аб экстэрнаце ад 28 мая 2003 года, зацверджанага загадам Міністэрства адукацыі. Не пазней як за два месяцы бацькі павінны падаць заявы ва ўпраўленне адукацыі па месцы жыхарства. У гэтым раёне вылучаецца адна школа, на базе якой усе жадаючыя здаюць экзамены экстэрнам.

Нашы дзеці падрыхтаваны добра, яны атрымоўваюць кансультацыі ў поўным аб'ёме, з імі працуюць педагогі, і яны любыя экстэрны здадуць, галоўнае, каб не было палітычнага загаду іх да экзаменаў не дапусціць.

Дарэчы, 25 лістапада бацькі накіравалі чарговы ліст міністру адукацыі з прапановай цягам тыдня сустрэцца і абгаварыць, што будзе далей. Бацькоў не задавальняе прапанова распіхаць дзяцей па розных школах Мінска. Адзінае іх патрабаванне: дзеці павінны вучыцца разам і ў сваіх выкладчыкаў. Наколькі мне вядома, адказу з Міністэрства бацькі не атрымалі. Міністр не ідзе ні на якія кантакты.

**— Куды збіраюцца паступаць выпускнікі?**

— Мы рабілі апытанне. Большасць дзяцей хацела б вучыцца ў Беларусі. Але калі не давядзецца атрымаць дзяржаўныя атэстаты, выйсця няма: прыйдзецца атрымліваць іх дзесьці за мяжой. Зараз вядуцца перамовы з некалькімі краінамі на ўзроўні міністэрстваў адукацыі, і па тых звестках, якія маем, дзеці ў бядзе не застануцца. Калі ім забароняць атрымліваць атэстаты на радзіме, яны паспрабуюць атрымаць дакументы аб адукацыі ў суседніх краінах. Паколькі гэтыя сертыфікаты будуць прызнавацца краінамі Еўрасаюза, то нашы дзеці ў пройгрышы не застануцца.

**— Каб здымаць прыватныя кватэры, патрэбны грошы, як і на гэтую мэблю, якая стаіць тут. Хто Вам дапамагае?**

— Бацькі стварылі касу ўзаемадапамогі. Яны складваюцца, хто колькі можа, і нават аказвалі разавую дапамогу тым настаўнікам, якія засталіся без сродкаў да існавання.

Дапамагаюць прыватныя асобы. У асноўным гэта невялікія ахвяраванні...

Нядаўна вядомая пісьменніца Святлана Алексіевіч ахвяравала даволі значную суму грошай на набыццё літаратуры для ліцэістаў. Свае кніжкі падарылі Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, Марыя Вайцяшонак, Людка Сільнова, Васіль Якавенка і іншыя...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**
**Фота Глеба ЛАБАДЗЕНКІ.**



**ПУЛЬС**

## Чэргі на атрыманне польскіх віз змяншаюцца

*Зменшыліся чэргі па візы ў Генеральным консульстве Рэспублікі Польшча ў Брэсце.*

Як патлумачылі БелаПАН у генконсульстве, для гэтага ёсць дзве прычыны. Па-першае, за апошнія тыдні зменшылася колькасць грамадзян, якія жадаюць атрымаць візы: замест 800 віз, як гэта было раней, супрацоўнікі консульства штодня афармляюць не больш за 400. Усяго ж з 5 верасня ў генконсульстве афармлена каля 28 тысяч віз, з якіх пераважная большасць — для грамадзян Беларусі.

Па-другое, на гэтым тыдні візавы аддзел консульства пераехаў у новы будынак. Для атрымальнікаў віз тут працуюць 12 "акенцаў" замест ранейшых пяці.

У Генеральным консульстве сцвярджаюць, што з пачаткам працы ў новых умовах візы будуць афармляцца хутчэй — у дзень падачы дакументаў альбо на наступны дзень.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## «Пагаварыце» з Уладзімірам Караткевічам праз камп'ютэр

*У сетцы Інтэрнет з'явіўся віртуальны музей вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Пра гэта БелаПАН паведаміў Пётр Жаўняровіч — выкладчык беларускай літаратуры і стылістыкі Мінскага прафесійна-тэхнічнага каледжа электронікі і кіраўнік музея Уладзіміра Караткевіча, што створаны ў каледжы.*

На сайце **http://uladzimir-karatkevich.iatp.by** прадстаўлены ўсе творы класіка беларускай літаратуры на роднай мове і прыкладна 90 працэнтаў яго твораў, перакладзеных на рускую мову. Як зазначыў Жаўняровіч, на сайце знаходзяцца і тыя працы Уладзіміра Караткевіча, якія не зафіксаваны ў ягоным летапісе жыцця і творчасці і не ўключаны ў збор твораў пісьменніка.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Браканьеры і ўзімку не адпачываюць

Надыход зімы не спыніў актыўнасці рыбаловаў-браканьераў на вадаёмах Віцебшчыны і не стаў пачаткам "мёртвага сезона" для супрацоўнікаў Віцебскай міжраённай інспекцыі аховы рыбных рэсурсаў і паляўнічых відаў жывёл. Ужо за першую дэкаду снежня інспектары афармілі восем пратаколаў на парушальнікаў правіл рыбалоўства. Гэтыя дакументы замкнулі агульны рахунак працы інспектараў рыбааховы, якія за 11 месяцаў затрымалі амаль тысячу браканьераў, адабраўшы ў іх лодачны рухавік, 7 гумовых лодак і 250 розных самаробных, забароненых законам прылад для рыбнай лоўлі. За гэты час браканьеры нанеслі дзяржаве страты на 1,5 мільёна рублёў, за што былі аштрафаваны на 13 мільёнаў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Будзе зараз ёй «экстазі»...

*Вынікам выдатна арганізаванай аперацыі, праведзенай супрацоўнікамі Барысаўскага міжраённага аддзела нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў, стала канфіскацыя вялікай партыі псіхатропнага сродку "экстазі" на агульную суму, што перавышае 1000 долараў ЗША. Арыштавана прадавец тавару, 25-гадовая жыхарка Барысава, маці трох малалетніх дзяцей. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў гарадскім аддзеле ўнутраных спраў.*

На допыце жанчына расказала, што таблеткі па цане 25 тысяч рублёў за адну штуку ў яе куплялі маладыя людзі перад паходам на дыскатэку. Як высветлілася, ад продажу наркотыка жанчына вялікай выгады не мела, жыла даволі бедна — у яе кватэры аператыўнікі не знайшлі нават прадуктаў харчавання. Амаль усю выручку ёй даводзілася аддаваць пастаўшчыку наркотыка.

Начальнік аддзела Сяргей Шнейдэр нагадаў, што за апошнія гады гэта самая буйная партыя "экстазі", канфіскаваная барысаўскімі аператыўнікамі. Паводле яе слоў, больш буйным — 600 таблетак — быў "улоў" іх мінскіх калег, але адбылося гэта некалькі гадоў таму.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

**СВОБОДНАЯ ТРИБУНА**

# Девять лет без счастья в жизни

**Александр БУХВОСТОВ, председатель Белорусского профсоюза работников автосельхозмаша**

Девять лет назад, впервые выбирая президента, белорусский народ думал, что наконец-то и он станет жить по меркам развитых стран Европы и Америки.

Победитель обещал так много, что огромное количество его сторонников прямо-таки пело от ожидания счастья.

Пришло время задуматься, пришло время спросить: а где ожидаемое, где обещанное? Реализовались ли декларации Лукашенко — и предвыборные, и уже президентские, и во что они обходятся народу?

В поисках объективных ответов на поставленные вопросы не имеет смысла пользоваться информацией государственных изданий. Там ответ один — Беларусь во главе с Лукашенко идет по особому пути, который позволил создать экономическую и социальную модель, обеспечивающую в Беларуси стабильность и процветание.

Монополизация госсредств массовой информации, административное, уголовное и финансовое удушение оппозиционных и альтернативных изданий позволяют власти (а это ее осознанный стиль) дурачить народ, заставляя неискушенных граждан верить в искаженную реальность о положении дел в государстве.

Я бы предложил каждому, кто заинтересован в улучшении своей жизни, в будущем своих детей и внуков, внимательно посмотреть вокруг и сделать выводы исходя из своего опыта.

Обществу нужна открытая, свободная, нерафинированная дискуссия на темы "Как мы живем?" и "Что будет с нами и страной?".

Лукашенко и его команда уже сегодня подспудно навязывают обществу идею маниакального толка о продлении президентского срока путем изменения Конституции и закрепления за Лукашенко надолго, если не навсегда, поста президента. Скорее всего под влиянием российского руководства Лукашенко заявил, что в этом году референдума не будет. А в следующем? Подготовка идет. В народ и общество вброшены примитивные схемы государственной идеологии. Суть их проста: кто не с президентом Лукашенко, тот враг народа и государства. Из тех установок, которые даны Лукашенко на идеологическом совещании 27 марта с.г., отчетливо просматривается главная стратегия режима — не допустить отстранения нынешней команды от "государственного руля". Все эти рассуждения о благосостоянии, о духовности, об особом пути и чуть ли не миссии Беларуси — сплошной камуфляж, болтовня, которые должны скрывать путь к главной цели — сохранению и консервированию личной власти. А последние военные маневры? Это бряцание оружием под руководством Верховного главкома подтверждают факт, что власть будет защищать свое место, опираясь и на силу.

Социологи недавно опубликовали данные исследований общественного мнения по отношению к продлению срока президентских полномочий Лукашенко. Лишь немногим более 20% граждан ответили положительно на вопрос "Согласны ли, чтобы президентом вновь был избран А.Лукашенко?", около 70% опрошенных заявили, что хотят на посту президента Беларуси видеть другого человека. В народе формируется негативное отношение к попыткам сохранения власти сверх конституционного срока. Следует привлечь внимание сомневающихся и сторонников Лукашенко к критическому анализу белорусской действительности. Посмотрите, господа, на себя со стороны! Что вы творите?

Государственные СМИ полны лжи, подтасовок, передергивания фактов, преувеличений, а также многочисленных "театрализованных представлений" в виде демонстрации по ТВ заседаний Совета министров, совещаний у президента, пресс-конференций, встреч с журналистами и т.д. Только оценка своего положения и перспективы его развития в будущем могут сформировать ясную позицию — "кто за кого", "кто чего стоит", "с кем идти дальше". И если подавляющее большинство граждан, народа будет против изменения конституционного срока, то Лукашенко не поможет ни административный ресурс, ни возможные установки на фальсификацию результатов голосования, ни силовые структуры. Ведь Беларусь, в конце концов, — европейская страна.

Власть в пропаганде мнимых достижений и заслуг режима использует ряд простых и понятных аргументов.

*Первый из них:*
***"В Беларуси нет войны — это заслуга власти".***

А почему в Беларуси должна быть война? Что, вокруг нас все страны воюют: Польша, Литва, Эстония, Венгрия, Украина и т.д.? В своей аргументации идеологи от власти уподобляются древнегреческим мудрецам, которые для одурачивания людей использовали заключения из некорректно поставленных вопросов. Такие ложные умозаключения называются софизмами.

Вот пример старого софизма "рогатый". Ставится вопрос: "То, что ты не потерял, у тебя есть". Ты отвечаешь: "Да". "Рогов ты не терял?" "Нет". — "Значит, у тебя есть рога".

*Следующий аргумент:*
***"Работает промышленность, зарплата выплачивается".***

Состояние многих предприятий машиностроения, легкой промышленности и других отраслей, где не было создано в советские времена достаточного экспортного потенциала, ничем не отличается от аналогичных предприятий России, Украины и других стран СНГ.

Жизнь в промышленности Беларуси теплится не потому, что проводится разумная экономическая и промышленная политика, а скорее вопреки руководящей и направляющей силе президентской власти. Белорусская промышленность была в советское время одной из самых экспортно ориентированных. Минский тракторный завод, Белорусский автомобильный и Минский автомобильный заводы, ПО "Беларуськалий" и некоторые другие крупные предприятия в достаточно больших объемах продавали свои изделия за твердую валюту. Все агрегатные заводы завязаны на крупные российские автомобильные предприятия: ВАЗ, ГАЗ, КамАЗ и другие. Тяжело было в начале 90-х годов, после разрыва экономических связей. В это время выручали экспортные контракты. Промышленность Беларуси и сейчас тесно связана с российскими предприятиями и рынком. Работают горно-металлургические комбинаты в России, работает и БелАЗ, который практически монополист в этом регионе по продаже карьерных самосвалов. Работают ВАЗ, ГАЗ, КамАЗ — работают и белорусские агрегатные заводы. Есть спрос — есть продажи, есть работа. Выживает промышленность также за счет кадрового потенциала: инженеров, организаторов производства, рабочих, руководителей. Талантами не обделен ни белорусский рабочий, ни специалист. Практически без внешних инвестиций, без какой-либо системной инвестиционной политики внутри государства предприятия держатся и создают новые изделия, многочисленные серии новых машин. И это в условиях хронической нехватки оборотных средств. Дамокловым мечом висят над белорусским производителем недостаточное качество выпускаемой продукции, слабая конкурентоспособность. Стареют основные фонды (уже 80—90% износ), стареют кадры — приток молодежи ограничен, в первую очередь из-за низкой зарплаты и тяжелых условий труда. Налоговая политика и экономически запретительная система управления промышленностью разрушают потенциал, подтачивают силы предприятий. Конкуренция же усиливается, и пагубность нынешней экономической и промышленной политики с каждым днем становится все очевидней и очевидней.

Большинство предприятий убыточны или работают с низкой рентабельностью. Перекачивание средств от более-менее работающих предприятий к убыточным деморализует экономическую систему. Некоторые приспособились кое-как выживать. Они не ищут, не добиваются эффективности и прибыльности в своей деятельности. Есть предприятия, где тянут, рвутся вперед, испытывая недостаток мощностей; другие — сидят, кое-как проживают день за днем, платя мизерную зарплату. Но главное для власти обеспечено — все вокруг спокойно, народ на улицы не выходит. Режим всеми способами консервирует ситуацию. Сверху запретительные меры, снизу зарплата, пусть небольшая, но чтобы хватало на хлеб и молоко. Все делается с расчетом — не допустить выступлений трудящихся. С этой целью ведется беспрецедентная, нарушающая все конституционные и международные нормы борьба с независимым профсоюзным движением. Режим объявил войну независимым профсоюзам, как говорится, на уничтожение. Федерация профсоюзов уже под контролем Администрации и практически превращена в государственную корпоративную структуру. Осталось разобраться с двумя-тремя профсоюзами, и у работников не будет организаций, которые защищали бы интересы работников на всех уровнях производства и государственного управления. Именно это и требуется власти. В Беларуси должен быть только один "защитник обездоленных и угнетенных" — президент Лукашенко. Конкуренты подлежат уничтожению.

Если смотреть в перспективу, то крах неизбежен и в экономике, и в промышленности. Конечно, "вливания" из России в виде стабилизационных кредитов или еще каких-либо дотаций могут отсрочить на годы наступление коллапса. Но будущего при такой экономической и промышленной политике нет и быть не может. Об этом говорят многие специалисты. Группа молодых белорусских экономистов под эгидой независимых профсоюзов совместно с немецкими учеными разработали программу развития экономики и промышленности Беларуси, вывода их из кризиса за 10—12 лет работы. Для ее реализации нужна новая политическая власть и воля — новая по существу, характеру и интеллекту.

*(Окончание на 2-й стр.)*

